


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 35 (1070) БЕЛАСТОК, 29 ЖНІЎНЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.


## Новыя вершы

Было тады
Сяло Сады.
Цвілі гады,
Нібы сады.
Шумеў наш сад,
Не меўшы звад.
І ў полі спеў
Паволі спеў.
І ты была —
Кветы нясла.
І я ў вясне
Стаяў бы ў сне:
Спакусны ўзлёт
І вуснаў злёт.
І ціш вачэй
Паміж начэй...
Сяло Сады,
Сяло Сады
Цвіло тады
Там, нібы дым,
Нам, маладым...
Сяло, сяло...
Было... было...
Сады, Сады...
Тады... Тады...

**Янка Сіпакоў**

## VIII з'езд БГКТ



# Наша супрацоўніцтва вельмі плённае

*(Выступленне старшыні Ваяводскай рады Федэрацыі сацыялістычных саюзаў польскай моладзі і адначасова старшыні Ваяводскага праўлення Саюза сацыялістычнай польскай моладзі ў Беластоку Вітальда Далэнгоўскага).*

Ад імя Ваяводскага савета Федэрацыі сацыялістычных саюзаў польскай моладзі, ад імя ваяводскіх праўленняў Сацыялістычнай польскай моладзі, Польскага гарцэрства і Сацыялістычнага саюза польскіх студэнтаў хачу перадаць вам і ўсім членам Беларускага грамадска-культурнага таварыства самыя лепшыя прывітанні і сардэчныя віншаванні з нагоды вашага юбілею 20-годдзя карыснай дзейнасці. З сапраўдным зацікаўленнем прымаю я ўдзел у рабоце, цікавай рабоце VIII з'езду БГКТ.

У кіраўніцтве маладзёжнага руху ўспрымаем дзейнасць БГКТ як платформу актыўнасці ўсіх людзей, якія сваё грамадскае заангажаванне, сваю грамадзянскую актыўнасць накіроўваюць на карысць развіцця нашага ваяводства і ўсёй краіны. Развіванне нацыянальнай культуры, ушанаванне традыцыі з'яўляецца справай, якую мы таксама ставім у праграме дзейнасці маладзёжнага руху на ганаровым, вядучым месцы. У ідэйна-выхаваўчай дзейнасці польскага маладзёжнага руху мы шукаем абшараў актыўнасці, таму радуе нас факт, што праграма БГКТ прадбачвае адкрытую дзейнасць, цесна звязаную з дзейнасцю іншых грамадскіх арганізацый. Магу сцвердзіць, што нашы сувязі, у роўнай ступені Ваяводскага савета Федэрацыі з Галоўным праўленнем БГКТ, як і гурткоў на мясцах, носяць характар штодзённага супрацоўніцтва. Гэта звязана з зацікаўленнем моладзі справамі культурнай і асветнай дзейнасці, працай гурткоў мастацкай самадзейнасці. Усюды там, дзе праходзяць фэстыны, у часе арганізавання конкурсаў на беларускую песню, у выкананні праграм усіх клубаў і культурна-асветных устаноў знаходзяць сабе месца маладыя людзі — члены маладзёжных арганізацый. Радуе нас факт, што ўсё больш моладзі знаходзіць магчымасць развіваць карысную культурную працу ў радах БГКТ. Радуе нас і тое, што згодна з праведзенымі размовамі з ГП БГКТ у бліжэйшым часе будзем магчы гэтае супрацоўніцтва і садзейнічанне развіваць. Мне хочацца прыгадаць, што некалькі год таму назад было падпісана пагадненне паміж Ваяводскім праўленнем Саюза вясковай моладзі і ГП БГКТ, мы рашылі, што гэтае пагадненне надалей абавязвае абедзве нашыя арганізацыі. У апошнім часе наглядаецца ўзмацненне дзейнасці ў маладзёжных арганізацыях. Мы цяпер якраз ажыццяўляем і папапулярызуем ідэі, прынятыя Кангрэсам польскай моладзі і I з'ездам Саюза сацыялістычнай польскай моладзі. Гэтыя заданні, звязаныя з шырокім удзелам моладзі ў пабудове ў нас развітага сацыялістычнага грамадства, кіруюцца да ўсяе польскай моладзі, у тым ліку і да звыш паўтаратысячнай групы маладых членаў БГКТ. Мне здаецца, што наша супольнае дзеянне будзе служыць пашырэнню ідэі ўсеагульнай актыўнасці, актыўнасці, што служыць развіццю нашай сацыялістычнай Айчыны.

Спасылаючыся на тое, што сказаў сакратар ВК ПАРП таварыш Юзэф Пяхоўскі аб стварэнні партыяй прыхільнага клімату для працы БГКТ, мы са свайго боку будзем імкнуцца пашыраць пашану і аб'ектыўную ацэнку таго, што вы ажыццяўляеце згодна са сваёй праграмай. Ушанаванне традыцыі, умацоўванне глыбокай улюбёнасці да дасягненняў і прагрэсіўных здабыткаў нашых папярэднікаў — гэта справа, што адносіцца да ўсіх нас і што ў сваёй ідэйна-выхаваўчай працы маладзёжны рух ставіць на першым месцы.

Спадзяюся, шаноўныя таварышы дэлегаты, што наша супольная дзейнасць будзе служыць паспяховаму выкананню праграмы паскоранага развіцця Беласточчыны, праграмы, якая ствараe вялікі шанц усім маладым людзям. З гэтага шанцу ўсе маладыя жыхары нашага ваяводства будуць імкнуцца як мага болей скарыстаць.

# Свет, затоены ў карэннях



*Вазон з кветкамі, выкананы з двух ракавых нарасляў дрэў і пару дубовых галінак з сухім лісцём.*

*Лес — вялікая скарбніца прыроды: калі каго раз зачаруе, той застаецца яго добраахвотным паклоннікам аж да смерці...*

Гэтыя словы запісаў мне ў рэпарцёрскім блакноце Станіслаў Банах, ляснічы з Белавежы. Сказаў пры гэтым, што яны растлумачваюць яго выбар такога, а не іншага жыццёвага шляху. І калі хто не зразумее іх простага сэнсу, не зразумее і яго самога.

Лес для С. Банаха, а асабліва Белавежская пушча, з'яўляецца паветрам, ежай і натхненнем, дзякуючы якім існуе ён, жыве. Без лесу не было б Банаха. Калі я з ім размаўляў, міжвольна ўспрымаў дзіўную жыц-

**(Працяг на стар. 4)**



*Ляснічы Станіслаў Банах з кампазіцыяй з цыклу „Асвенцім".*

## Праз тыдзень у "Ніве"

**Што чуваць у турысцкай Белавежы? ● Жывуць яны над Нарвай ● Аб беларускай графіцы ● Курорты „былых" з СС ● Літаратурная старонка ● Што здарылася з кнігарняй? ● Калі адпачываюць паштальёны? ● Весткі з Лукі, Сакоў, Нурца, Нараўкі, Нарвы, Гаркавіч, Гайнаўкі, Шудзялава, Вярхлеся, Кляшчэляў, Плёсак ● Галаваломка з узнагародамі ● Калі сніцца гасціна ● Песня „Bez pieniędzy".**

# Паспяхоўныя разважанні

Сёлетняе жніво спазнілася на тры тыдні, як гэта было і два гады таму назад. Амаль усе культуры даспявалі ў адзін час. Не паспелі сяляне зжаць азімыя, а тут ужо і яравыя гатовы. Спачатку стаялі гарачыя сонечныя дні, а пасля дык трэба было лавіць кожную хвіліну спрыяльнай пагоды. Сёлета ў поле выйшла больш трактараў, снопавязалак, камбайнаў. Жанцам дапамаглі спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў, якія шырэй увялі так званую брыгадную сістэму працы — калі брыгада закончыць жніво ў адной вёсцы, тады пераязджала комплексна ў іншыя вёскі.

Аднак пры дапамозе СКР-аўскіх машын сабрана далёка не ўсё збожжа, а толькі яго значная частка. Многія гаспадары, не чакаючы „кулковых" машын касілі сваімі або нават уручную, косамі. Бо збожжа неабходна было ў час сабраць з поля.

Яшчэ перад жнівом, ды і ў час уборкі збожжа з палёў Беласточчыны наведалі мы некалькі спулдзельняў сельскагаспадарчых гурткоў ды паасобных сялян.

У СКР у **Гайнаўцы** былі мы ў той час, калі яшчэ ніхто не пачынаў касіць рапсу (рапаку). А было яго да ўборкі звыш 1200 гектараў. СКР рыхтавалася касіць яго пакасовымі касілкамі, а пасля накіроўваць туды камбайны, якія б збіралі яго і малацілі. Быў гэта тут ужо спрактыкаваны метад. Рапак быў такі ўраджайны, што немагчыма было яго касіць снопавязалкамі. Найлепш ён урадзіў у сялян з Беразова, Дубічаў Асочных, Чыжыкаў ды Новага Корніна.

Гайнаўскі СКР меў гатовых да ўборкі збожжавых культур дзевяць камбайнаў, у тым ліку чатыры „Бізоны", сорак пяць снопавязалак, тры пакасовыя касілкі. На яго долю выпадала скасіць 2025 гектараў жыта, пшаніцы, ячменю і аўса. Апрача таго, СКР меў да ўборкі 114 га жыта, 62 га аўса, 30 га ячменю і 60 га лубіну са сваіх загаспадараных зямельных угоддзяў. У гэтым годзе спулдзельні прыбылі новыя жніўныя машыны. Мела яна чатыры новыя „Бізоны" і меў надыйсці яшчэ пяты. Камбайнамі планавалі касіць кожны дзень не менш як па 70 га збожжа. Значна больш снопавязалак, якія былі асабліва старанна падрыхтаваны да сёлетняй жніўнай кампаніі.

СКР у **Бельску** меў 80 снопавязалак, 11 камбайнаў і дзве пакасовыя касілкі. Толькі ўжо пры ўборцы рапсу сапсавалася восем снопавязалак і тры камбайны „Вістулі". Гэта не найлепш сведчыць аб падрыхтоўцы спулдзельні да жніва. У дадатак не было запасных часцей. Кашмар для механізатараў! На тое, што машыны хутка псаваліся, мела

Працяг на стар. 4

# ІВАН МЕЛЕЖ



9 жніўня пасля цяжкай хваробы на 56-м годзе жыцця памёр выдатны беларускі пісьменнік Іван Мележ.

Нарадзіўся Іван Мележ 8 лютага 1921 года ў вёсцы Глінішча Гомельскай вобласці ў сялянскай сям'і. Праца на вясковых палетках, у райкоме камсамола, вучоба ў Маскоўскім інстытуце гісторыі, філасофіі і літаратуры былі пачаткам яго жыццёвага, грамадскага фарміравання і пасталення. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны як салдат-артылерыст Іван Мележ удзельнічаў у баях з фашыстамі. На фронце быў цяжка паранены.

У гэты час пачаўся творчы шлях пісьменніка — у шпіталі ён напісаў свае першыя апавяданні. Пасля вайны Іван Мележ аддае ўсяго сябе творчай працы, піша аповесці, апавяданні, нарысы, стварае раман „Мінскі напрамак“, у якім малюе шырокую панараму гераічнай барацьбы Савецкай Арміі і партызан за вызваленне Савецкай Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

На ўсю моц разгарнуўся магутны талент пісьменніка ў часе працы над раманамі „Людзі на балоце“ і „Подых навальніцы“, за якія Іван Мележ быў удастоены Ленінскай прэміі.

У творчасці Мележа спалучыліся вострая назіральнасць мастака і глыбокая думка даследчыка народнага жыцця. Яго кнігі населены яркімі народнымі характарамі — тыпамі, ім уласцівы эпічны размах, сацыяльная маштабнасць, суровы драматызм жыцця, псіхалагічная праўда.

Кнігі Мележа ўвабралі ў сябе багацейшыя моўныя скарбы народа. Мастак шырокага творчага дыяпазону Іван Мележ унёс значны ўклад у развіццё беларускага тэатра. Яго п'есы „Пакуль мы маладыя“ і „Дні нашага нараджэння“ заваявалі заслужаны поспех у гледача.

Крытычныя артыкулы, даследаванні, публіцыстычныя выступленні пісьменніка, сабраныя ў кнізе „Жыццёвыя клопаты“, вызначаюцца эстэтычнай і філасофскай глыбінёй, праўдзівасцю ацэнак, высокім грамадзянскім пафасам.

Шмат сіл Іван Мележ аддаваў грамадскай дзейнасці як дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, старшыня Беларускага камітэта абароны міру, член Сусветнага Савета Міру, старшыня Беларускага аддзялення таварыства „СССР-Францыя“. Ён быў членам праўлення Саюза пісьменнікаў СССР. На працягу многіх гадоў працаваў сакратаром, а пасля намеснікам старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР.

## УКЛАД БЕЛАРУСКІХ АЛІМПІЙЦАЎ

У складзе савецкай алімпійскай каманды ў Манрэалі былі прадстаўнікі ўсіх саюзных рэспублік нашай Айчыны. Сярод іх — лепшыя спартсмены Беларусі.

У першы ж дзень Алімпіяды адбылася камандная шасейная гонка веласіпедыстаў. У чацвёрцы савецкіх веласіпедыстаў быў і мінчанін Уладзімір Камінскі. Каманда, выступаючы ў традыцыйных ярка-чырвоных кашулях хутчэй за ўсіх прайшла шматкіламетровую дыстанцыю і заваявала залатыя медалі.

Так быў адкрыты лік залатых медалёў, атрыманых савецкімі спартсменамі.

Уладзімір Камінскі — ураджэнец вёскі Цнянка Мінскага раёна, па спецыяльнасці тэхнік-электрык. Не раз удзельнічаў ва ўсесаюзных і міжнародных спаборніцтвах. Але лепш за ўсё Уладзімір праяўляў сябе ў камандных спаборніцтвах. Так было і ў Манрэалі, калі ўпершыню беларускі веласіпедыст стаў чэмпіёнам Алімпійскіх гульняў.

Гродзенская студэнтка, заслужаны майстар спорту Вольга Корбут вядома ва ўсіх краінах свету. У час турнэ па Амерыцы беларуская спартсменка настолькі пакарыла шматтысячных гледачоў, што ў ЗША былі створаны дзесяткі жаночых гімнастычных клубаў, якія носяць імя Вольгі Корбут. Выдатна выступіла Вольга і ў Манрэалі. У складзе савецкай каманды яна была ўзнагароджана залатым і сярэбраным медалямі.

Штангіст Валерый Шарый носіць ганаровае званне заслужанага майстра спорту. У 1972 годзе беларускі спартсмен няўдала выступіў у XX Алімпійскіх гульнях. Але гэта няўдача не дэмаралізавала Валерыя. За чатыры гады ён неаднаразова ўстанаўліваў усесаюзныя і сусветныя рэкорды сярод штангістаў сярэдняй вагі. У Манрэалі ў вострай спартыўнай барацьбе з балгарамі Стойчавым і Благоевым Валерый Шарый дабіўся залатога медаля чэмпіёна.

Шмат гадоў славіцца беларуская школа фехтавання. Заслужаныя трэнеры СССР муж і жонка Герман і Ларыса Бокуны выхавалі нямала чэмпіёнаў. Заслужаны майстар спорту, чэмпіёнка XIX і XX Алімпійскіх гульняў мінчанка Алена Бялова і Віктар Сідзяк, якія таксама носяць шматлікія званні чэмпіёна, зноў былі мацнейшымі сярод фехтавальшчыкаў свету. Яны ўзнагароджа-

(Працяг на стар. 5)

*Наш каляндар*

## „НАША ДОЛЯ“

Першы яе нумар выйшаў 1 верасня 1906 года ў Вільні. Але ўжо ў наступным нумары, што паявіўся 15 верасня, у рубрыцы „Ад рэдакціи“ падавалася да ведама чытачоў наступнае: *„Першы нумэр „Нашае Доли“ па прыказу Виленскаго губэрнатора палиция конфискавала. Разышлася тольки палавина — пяць тысячоу, а пяць тысячоу палицыя забрала, так што ничого схаваць не удалося, и дзеля таго высылаць першы нумэр никому ня можем“.* І тут дадайма: на выйшаўшыя ўсяго 6 нумароў гэтай *„першае белорускае газэты для вёсковаго и местоваго рабочаго народу“* аж пяць было канфіскавана. Апошні нумар выйшаў 1 снежня 1906 г., а ў студзені 1907 г. рашэннем Віленскай судовай палаты выдаванне „Нашай Долі“ было цалкам забаронена. Цяжка, вельмі цяжка нараджаўся беларускі перыядычны друк! Цярністыя былі пуцявіны нашага роднага беларускага слова...

Выдавала „Нашую Долю“ група членаў партыі Беларуская сацыялістычная грамада ў асноўным за сродкі гэтай арганізацыі і ахвяраванні, што дасылалі ў рэдакцыю прыхільнікі беларускага друкаванага слова. У сваёй працы яна імкнулася здабываць як мага шырэйшае кола чытачоў і карэспандэнтаў: *„Просим усих нашых чытацелёу писаць да нас, писаць аб усём, што дзеецца, аб крыудах сваих и радосьцях, хто як умее. Кали патрэбна будзе каму якая парада — пытайцеся — адкажэмо. Ведайце добра, што „Наша Доля“ — газета вёсковых людзёў“,* — пісала рэдакцыя. Друкавалася яна „рускими и польскими литэрами“.

Аб чым жа пісала „Наша Доля“? Мяркуючы па даступнаму нам толькі другому нумару газеты, яна адрасавалася простаму народу. Нумар адкрываецца артыкулам „Пагром“, праўдападобна, пяра вядомай беларускай пісьменніцы і грамадскай дзяячкі А. С. Пашкевіч-Цёткі. У артыкуле выносіцца прысуд тым рэакцыйным сілам, што выклікаюць гэтыя жудасныя падзеі. *„Пагром! Свет добра ведае, што значыцъ гэта слова: у ём морэ крыви, цэлые рэки слёз, сотни забитых и пакалечэных, плач удоу и сирот, умираючых з голаду на магилках сваих кармицелёу,* — сцвярджае аўтар і заканчвае артыкул словамі: *Народ пачынае разумець (агідпасць пагромаў і тое, каму яны служаць — І.С.), и ядавитае зерне нязгоды ня зыдзе на ниуках нашых вёсак“.* Артыкул „Як мужыку палепшыць сваё жыццё“ заклікае сялян арганізавацца ў саюзы, так як гэта робяць рабочыя ў гарадах. *„Такие мужыцкие саюзы павинны моцна злучыць усих мужыкоу дзеля таго, каб абараняць свае агульные справы и палепшыць цяжкую долю мужыкоу“.* У „Гуторках аб гаспадарцы“ аўтар Антось Асина заклікае ліквідаваць цераспалосіцу і трохпалёўку — самыя адсталыя формы гаспадарання ў сельскай гаспадарцы. У рубрыках „З Беларуси и Литвы“, а таксама „Па Расеи“ падаюцца факты выступленняў сялян супраць царскай улады, а ў рубрыцы „Усяго па троху“ гаворыцца, між іншым, аб тым, як царскі урад узбагачае сваю казну коштам продажы сялянам г.зв. казённай зямлі, памешчан таксама заклік арганізаваць у вёсках грамадскія бібліятэкі. У гэтым жа нумары апублікавана апавяданне Я. Коласа „Слабода“ за подпісам „Дзяцька Карусь“ і яго верш „Асенни вечар“, а таксама верш Дзяцькі Пранука — „Вецер“. Усю восьмую старонку займаюць аб'явы, сярод іх, між іншым, таксама беларуская выдавецкая суполка „Загляне сонцэ и у наше ваконцэ“ „радзиць усим купляць“ кнігі беларускіх аўтараў.

Так, у асноўным, выглядала першая легальная беларуская газета. Хоць надта ж прыніжаная і сярмяжная яна была, але стала тым найважнейшым першым крокам, які вёў да паўстання нармальнага беларускага друку.

**І. Снарскі**

Цана асобнаго нумару 5 кап. (10 грошей).

№ 2.

**Наша Доля**

першая белорускае газэта для вёсковаго и местоваго рабочаго народу.

ВЫХОДЗИЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ рускими и польскими литэрами.

Ад Рэдакции.

Пагром.

## TELEWIZJA WARSZAWA

— -*- —

**Sobota — 28.VIII.** 12.00 Pr. na D. D. 15.30 Red. Szk. Zap. 15.40 Pr. I prop. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Dla dzieci. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Za kierownicą. 17.35 Rodowody — rep. 17.50 Festiwal Piosenki — Sopot 76. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Trybuna Ludu — nasza gazeta. 22.00 Dzien. 22.20 Kino Letnie.

— -*- —

**Niedziela — 29.VIII.** 7.15 Tech. Rol. Zaj. wakac. 7.55 Przyp., radz. 8.05 Now. w domu i zagr. 8.30 Bieg po zdr. 8.45 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.40 Milcząca gwiazda — film fab. pol. 12.10 Dzien. 12.30 Sztuka dworu Wazów cz. I. 13.00 Radar. 13.15 60 dni z Lordem Jimem — muz. rep. 13.50 Dla dzieci: Bajk. konc. życz. 14.30 Wielka gra. 15.30 Los. Duż. Lot. 15.45 Nikt nie zna Londynu — film dok. ang. 16.30 Co kto lubi. 17.20 Sport. 18.20 Festiwal piosenki — Sopot 76. 19.20 Wieczor. 19.30 Dziennik. 20.20 Bajka dla dor. 20.25 Festiwal piosenki — Sopot 76. 21.55 Sport.

— -*- —

**Poniedziałek — 30.VIII.** 12.00 Pr. na D. D. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Zwierzyniec. 17.40 Echo stad. 18.15 Gorące serca — film ser. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: Juliusz Słowacki „Lilla Weneda”. 22.15 Dzien. 22.35 Świadkowie.

— -*- —

**Wtorek — 31.VIII.** 12.00 Pr. na D. D. 12.30 Egoistka — film fab. radz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Na wielkim i mał. ekr. 17.25 Lekt. Pegaza. 17.40 Fakty, op., hip. 18.15 Studio Mł. 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Dziewczęta z wiolonczelą — film fab. szwajc.-fr. 21.50 Ze stolic świata. 22.20 Dzien. 22.35 Pr. muz.

— -*- —

**Środa — 1.IX.** 9.00 Pr. na D. D. 9.30 Dziewczęta z wiolonczelą — film fab. 11.05 Dla szkół: Hist. kl. VII Jan Henryk Dąbrowski. 12.00 Wych. plast. kl. VII—VIII Jak patrzeć na dzieło sztuki. 12.45 Tech. Rol. Wskaz. met. Lekcja 1. 15.50 NURT — Wykład inauguracyjny. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Los. Mał. Lot. 17.45 Pr. publ. 18.10 Godzina Stanisława Mikulskiego. 19.00 Śpiewa Natasza Czarmińska. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Polskie drogi — odc. pt. „Misja specjalna” filmu ser. 21.50 Żołnierska ballada. 22.35 Sami o sobie. 23.00 Dzien.

— -*- —

**Czwartek — 2.IX** 6.00 Tech. Rol. Wskaz. met. Lekcja 1. 9.00 Pr. na D. D. 11.05 Dla szkół: J. pol. kl. IV lic. W Muzeum Literat. 12.30 Decyzje piętnastolatków. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z Bratkiem. 18.00 Poligon. 18.25 Przyp., radz. 18.30 Rok pierwszy. 19.10 Wyst. Amb. Wietnamu. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Los tak chce — film fab. ang. 21.30 Pegaz. 22.15 Dzien. 22.30 Piosenki Supraphonu — pr. rozr.

— -*- —

**Piątek — 3.IX.** 9.00 Pr. na D. D. 9.30 Los tak chce — film fab. ang. 10.00 Pr. dla kl. IV Z Syrenką w herbie. 11.05 Dla szkół: Wych. ob. kl. VII Dla pracowitych. 12.00 Geogr. kl. VII Najdalsze wyspy Europy. 12.45 Tech. Rol. Wskaz. met. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.35 Zrób to sam. 18.20 Tripolis znaczy trójmiasto. 18.45 Małe cuda wielkiej przyrody — film dok. radz. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Dzieci Waniuszyna — film fab. radz. 21.50 Spotk. z gwiazdą — Joe Dassin. 22.25 Dzien.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 27.VIII** — 8.15 Film ser. 14.10 Film fab. 15.15 Sport. 17.30 P. nożna. Dynamo (Mińsk)—Torpedo. 19.45 Przegląd „Błękitnego płomyka” 20.20 Filmy anim. dla dorosłych.

**Sobota 28.VIII** — 12.35 Koncert. 13.10 Film fab. 14.30 Koncert. 15.30 Filmy anim. 16.15 W świecie zwierz. 17.15 Śpiewa M. Rejzen. 17.25 Film fab. 19.30 Panorama film.

**Niedziela 29.VIII** — 11.35 Film fab. 13.40 Pr. muz. dla górników. 16.15 Film anim. 16.25 Panorama międzynar. 17.10 Film fab. 18.00 Klub film. 19.30 I. Archipowa śpiewa romanse ros. 20.10 Koncert.

## КІНО

**Białowieża** Ucieczki gangstera — USA 31.VIII—1.IX. Jarosław Dąbrowski — pol. 2—3.IX. Zew krwi — ang. 4—5.IX.

**Czyże** Pułapka — pol. Motyle — pol. 1—5.IX.

**Gródek** Noc amerykańska — fr. 4—5.IX.

**Kleszczele** Prawo gwałtu — USA 31.VIII—1.IX. Czy pasujemy do siebie kochanie — czes. 2—3.IX. Podróż — wł. 4—5.IX.

**Michałowo** Był sobie drozd — radz. 31.VIII—1.IX. Ja i mój syn — radz. 2—3.IX. Dulscy — pol. 4—5.IX.

**Mielnik** Miłość szesnastolatków — NRD 1.IX. Dzień szakala — ang. 4—5.IX.

**Narew** Nocne widma — ang. Raj na ziemi — pol. 1—5.IX.

**Nurzec** Pożegnanie z diabłem — pol. 31.VIII—1.IX. Julia, Julka, Juleczka — NRD 2—3.IX. Przyjaciele Eddiego — USA 4—5.X.

B.Z.Graf. Zam. 1939 F-4

 

# Няміраў над Бугам

Калі ў пяшчотным рачным пяску раптам намацваеш босай ступнёй нешта калючае і, схіліўшыся, падымаеш кавалачак жужалю з пагаслай якіх мо паўтары-дзве тысячы год таму назад печы-дымніцы або калі бярэш у рукі шурпаты ашкелак-чарапок ад калішняга збана і бачыш на ім адбіткі пальцаў чалавека, што дзве-тры тысячы гадоў таму назад яго вылепіў, тады найлепш разумееш, наколькі адпаведнай была для гэтай мясціны назва Нівіцы, ад слова „ніва", што ўзгадвала ўсю Славяншчыну.

І былі тут дзве шчодрыя нівы: адна — блакітная і бурлівая, што насіла на сваіх плячах уверх і ўніз звітныя чайкі і абшыванкі, цяжка гружаныя збожжам, мёдам, паташом, жалезам і соллю дубы і гіляры, бясконцыя пакручастыя пасы-плыты дрэва, а над усім гэтым лунала і глохла ў зараслях надбужанскай лазы працяглая і звонкая песня: другая — сярэбраная і залатая, па якой гуляў прывольна вецер-валацуга і зачэсваў у пакладзістыя хвалі каласістыя палеткі жытоў і пшаніц, вызвоньваў дзіўна мяккія мелодыі ў грыўках-званках аўса аж радасная ўсмешка варушыла вусы на задуменных тварах ячменяў.

І мелі Нівіцы з гэтых дзвюх ніваў і хлеб і да хлеба.

А ў крэпасці цвердзі, што некалі высілася там, дзе цяпер дзірван усцілае таямнічую Замкавую горку, ахвотна прымалі мірнага падарожніка-путніка, што завітваў сюды з адлеглых зямель сцюдзёных варажскіх або з выпеставанага сонцам поўдня далёкага Царграда, купца-госця са спавітай казкамі сярэбрана-жамчужнай Бухары або лясамі ўкрытай змрочнай паўночнай Самбіі. І лілося ў рогі і кубкі грэчаскае хмяльное віно і сычаны мёд славянскі. А калі вораг падыходзіў пад дубовыя сцены цвердзі, яны ашчаціньваліся едкімі вастрыямі пікаў і рагацінаў, цэльнымі стрэламі лукаў і прашчаў, бо ўмелі ж Нівіцы бараніць спакой і незалежнасць сваіх абедзвюх ніваў і насіджанага кутка ў роднай хаце.

Але вось шчодрая і марнатраўная рука ўміраючага вялікага князя літоўскага і караля польскага Зыгмунта выпускае Нівіцы ў 1548 г. шляхецкаму роду Нямірам, і мір ды спакой пагаслі ў гэтай мясціне. Навала за навалай пракочваліся па Надбужжу ворагі-заборцы, пакідаючы пасля сябе толькі попел ды вуголле і курганы магілаў на суседнім пагорку, а ў замку-крэпасці не змаўкалі гульбы-балі.

Адышлі Нівіцы беспаваротна, як спакой на іх абедзвюх нівах. У свой гонар магнаты Няміры назвалі мясціну Няміравам. А яна ж такая ўтульная, ціхая, мірная...

**І. Снарскі**
**Фота аўтара**



*Манументальны беласценны класічны касцёл пануе над вёскай і наваколлем.*



*Дрэмлюць у засені клёнаў і каштанаў утульныя домікі.*



*А ў гарачы поўдзень усё жывое шукае ўталення ў вадзе.*



*Гэты паром-старэча ўжо не перасякае русла гонкага Буга, дажывае свае апошнія дні на пясчаным беразе.*



*Бужанскую ціш час ад часу раскалышча мерны пляск прача па даматканым радне.*

## З рэпарцёрскіх запісак

Сёння крыху пра будаўнікоў. Ва ўсялякіх структурных пераўтварэннях нашай гаспадаркі яны прымаюць самы дзейсны ўдзел. Красамоўна гавораць аб гэтым лікі. Як праінфармавалі мяне на Беластоцкім прадпрыемстве прамысловага будаўніцтва, іх заданні на працягу апошніх трох гадоў больш чым падвоіліся. У 1973 годзе бюджэт прадпрыемства складаў суму амаль 400 мільёнаў злотых, а на гэты — 1976 год запланавала ўжо звыш 800 мільёнаў злотых.

Гэта адначасова сведчыць, як шпарка разрастаецца наша гаспадарка. Будуем дзеля супольнага дабра, дзеля лепшай будучыні.

Толькі трэба яшчэ ведаць, што Беластоцкае прадпрыемства прамысловага будаўніцтва, якое сярод будаўнікоў называюць звычайна „прамыслоўкай", не з'яўляецца сіратой на будаўнічым фронце. У Беластоку і Беластоцкім ваяводстве дзейнічае яшчэ шмат іншых спецыялістычных будаўнічых прадпрыемстваў. Аднак людзі з „прамыслоўкі" найбольш папрацавалі, каб адрабіць адсталасць Беласточчыны. Цяпер прадпрыемства абслугоўвае аж чатыры ваяводствы: Беластоцкае, Ломжынскае, Сувальскае і Астралэнскае.

У гэтым годзе яно будавала ў Беластоку:

— мэблевую фабрыку,
— новы філіял „ухвытаў",
— базу для гарадскога пасажырскага транспарту на 300 аўтобусаў і шмат іншых новабудоўляў, агульная вартасць якіх перавысіла мільярд злотых.

Яшчэ пра адну новабудоўлю. Побач дарогі з Беластока ў Саколку ў дрымучым лесе каля Чорнай Беластоцкай нядаўна паявіўся арыгінальны і нетыповы будынак. Майстар Станіслаў Шчэсюль, якога я сустрэў на гэтай будове, сказаў мне, што будзе тут заезны турыстычны дом. Зможа ён адначасова памясціць 30 асоб. Сталовая і кавярня ў турыстычным сезоне змогуць накарміць тут адначасова 150 чалавек.

Будова распачалася ў жніўні мінулага года і гэты заезны дом меў ужо прымаць гасцей. Аднак да канца працы яшчэ далёка.

— Гэта нетыповая будова, — кажа майстар. — Вы самі паглядзіце.

Сапраўды, з рыштавання вырысоўваецца будынак арыгінальнай архітэктурнай распрацоўкі. Чырвоная цэгла, вялікі, ломаны ў розныя бакі дах. Усё гэта напамінае крыху архітэктуру гуральскіх хат, а крыху выгляд японскіх святынь. Аўтар гэтага архітэктурнага праекта архітэкт інжынер А. Хвалібуг распусціў тут сваю фантазію на поўны ход.

— Усё вымушаны былі мы рабіць уручную, — апраўдваецца майстар, а яму на падтрымку спяшаюць іншыя рабочыя і зусім бесцырымонна „благаслаўляюць" архітэктара Хвалібуга.

— То ж за такія грошы, — дадае нехта, — можна было б пабудаваць тут штосьці сапраўды сучаснае, светлае, прасторнае, са шкла, металу і пластмасы, з драўлянай абліцоўкай, а не такі вось цагляны бункер з ламаным дахам, па якім можна будзе зімой на лыжах спускацца.

Сапраўды, гэтая будова даволі дорага абыйдзецца чорнабеластоцкаму ГС-су, які яе фінансуе. Паводле майго адчування, дзівосны архітэктурны выгляд гэтага будынка напамінае штосьці чужое ў традыцыі мясцовага будаўніцтва.

На нараканні ўжо аднак крыху запозна. Трэба толькі чакаць адкрыцця гэтага заезнога турыстычнага дома, каб убачыць, як ён будзе аформлены ўнутры. А так увогуле, дык добра, што хаця і такое штосьці паявілася на гэтым вельмі цікавым турыстычным шляху.

КРЫТЫКА НЕ ПАМАГЛА

## А магло б быць прыгажэй

Жыхары вёсак Бандары і Рыбакі ў гміне Міхалова маюць прыгожы гандлёвы павільён з шырокім асартыментам тавараў. Сюды нават прыязджаюць за пакупкамі людзі з суседніх вёсак, якія знаходзяцца на правым і левым беразе ракі Нарвы. Перад будынкам ёсць прыгожыя сходкі з бетону, два кветнікі. Прыдалося б аднак больш кветак ды яшчэ стаянкі для веласіпедаў.

У Міхалове перад вялікім гандлёвым домам, які знаходзіцца па вул. Беластоцкай, насупраць гміннага цэнтра культуры, таксама прыдаліся б кветкі. Як дагэтуль на кветніках расце толькі буйнае пустазелле. У гэтым жа самым будынку знаходзіцца канцылярыя ГС. Відаць, кіраўніцтва міхалоўскага ГС не любіць кветак, таму не задбала пра іх ні ля свайго бюро, ні ля сваіх крамаў. На гэта маем доказы. Аб справах эстэтыкі і патрэбе кветкавых агародчыкаў ля вясковых крамаў мы пісалі ў „Ніве" двойчы: у 29 нумары ад 20 ліпеня 1975 года і ў 49 нумары ад 7 снежня 1975 года. Улады ГС у Міхалове за нішто маюць газетную крытыку. Таму варта, каб гэтым пацікавілася кіраўніцтва ВЗГС у Беластоку.

**Іван Непаседа**

### Ці ведаеце, што...

...жыхары Польшчы купляюць 800 тысяч веласіпедаў і каля 200 тысяч матавеласіпедаў у год.

...у апошнія гады на Гайнаўшчыне і Бельшчыне пасаджана найбольш лесу, асабліва ў Храбалаўскай, Нараўкаўскай, Гайнаўскай і Кляшчэлеўскай гмінах.

(ця)

### Ад родных ніў

**СУСЕДУ-ПАЭТУ**

*Многа ведаў я суседаў,*
*бо пражыў нямала лет,*
*а таго я не разведаў,*
*што Ляўшук такі паэт!*

*Як дастаў я „Ніву" першу,*
*разоў пяць я прачытаў.*
*Быў такі харошы вершык,*
*што Аркадзік напісаў.*

*Ён напісаны так лоўка*
*(а гісторыя — рака)*
*пра адну тую кароўку*
*і пра хату бедняка.*

*Я сваім вачам не верыў,*
*як праўдзіва напісаў*
*пра нямецкіх афіцэраў,*
*што казалі шапкі зняць.*

*Як людзей яны пабілі*
*на палянцы пры шасе...*
*У нас чыталі й гаварылі*
*пра Аркадзеў верш усе.*

*І я шчыра і найперша*
*яму хачу пажадаць,*
*каб жыў доўга й многа вершаў*
*змог у „Ніву" напісаць.*

**Фёдар Хлябіч**
Рыбакі



 

 

(Працяг са стар. 1)

# СВЕТ, ЗАТОЕНЫ Ў КАРЭННЯХ

цёвую сілу, якая ад яго эмануе.

Мае ляснічы Банах адно вялікае захапленне, якое дало яму ўжо немалую на Беласточчыне славу. Адкрываць у лесе свет, створаны натурай, і паказаць яго людзям. А свет гэты схаваны ў карэннях, галінах дрэў. Схаваны для людзей без уяўлення, але не для Банаха. Ён умее глядзець. Няма, бадай, дня, каб не прывёз з лесу якогасьці карэньчыка ці галінкі. Познім вечарам ідзе ў свой пакойчык, уважна аглядае знаходкі, як бы баючыся, каб не знішчыць чагосьці яшчэ не адкрытага, вымае ножык. Умелым рухам адрэзвае адну ці дзве галінкі — і аж вачам не хочацца верыць. Вось аглядаю на невялікай паліцы ўстаноўленыя ў рад сапраўдныя лясныя цуды.

Касец — фігура поўная імпрэсіі, руху, апафеоз мужыцкай дужасці, працавітасці. Або маці з дзіцём на руках. Колькі ў гэтых двух невялікіх адрэзках карэння мацярынскай чуллівасці, колькі жаночай самаахвярнасці. За гэтую фігуру Банаху прызнана ганаровая грамата на агульнапольскай выстаўцы разьбы ў драўніне і карэннепластыкі лясных і дрэваапрацоўчых працаўнікоў, наладжанай у Гайнаўцы ў 1972 годзе. Або танцоўшчыца. Ідэальнае палажэнне рук і ног у лёгкім, свабодным танцы несвядома прыводзіць на думку Ізадору Дункан, славутую амерыканскую прапагандыстку вызваленага танца. Далей — лясное сімпатычнае казляня і зараз жа іншае казляня, дамашняе, яно ўскочыла на дрэўца і зламала ножку. Зусім, як у вядомай прыказцы.

На найбольш экспанаваным месцы С. Банах паставіў кампазіцыю з двух куч карэнняў і калючага дроту. Назваў яе „Людзі людзям падрыхтавалі такі лёс“. Уключаецца яна ў цыкл „Асвенцім“. Гляньце на здымак. Убачыце групу асвенцімскіх вязняў за лагернай агароджай. Іх рукі сімвалізуюць і адчай, і сумненне, і веру ў жыццё. Арыгінал выклікае многа задуменнасці. „Кампазіцыя гэта, — гаворыць ляснічы, — з'яўляецца ушанаваннем пакуты 4,5 мільёнаў людзей, якія трапілі ў асвенцімскае пекла“.

Азіраюся па пакоях Банаха і не магу наглядзецца. Бо трэба сказаць, што ён не толькі вышуквае ў карэннях вобразы людзей ці звярыны. Робіць з іх таксама цудоўныя аздобы, якія аднačасова ўпрыгожваюць пакоі і надаюць ім адзіны, непаўторны стыль. Падсвечнікі, попельніцы ці вазы зроблены з ракавых нарасляў дрэў, жырандолі з сасновых галін, простыя кампазіцыі з адпадкаў дрэў — усё гэта танны і тут жа каштоўны матэрыял, якога ўдосталь на кожнай ляснoй вырубцы. Трэба толькі фантазіі, каб прыдумаць яму прызначэнне.



*Фігура, названая „Касе ц“.*

„Зрабіў я ўжо гэтых розных цудэнькаў у сваім жыцці сотні, — гаворыць Банах. — Калісьці, пару гадоў назад, паявілася нават праблема, што з імі зрабіць, бо месца ўжо ў хаце не хапала. Пачаткова раздаваў знаёмым, суседзям, потым пачаў прадаваць у павільёне з белавежскімі памяткамі. Цяпер не паспяваю выконваць заказаў. А найбольш мяне цешыць, што турыстам гэтыя рэчы падабаюцца. І знаю, што яны ім набліжаюць лес. Людзі набіраюць да яго пашаны і сімпатыі. А гэта для мяне найбольшая заплата. Вось нядаўна атрымаў я паштоўку з Быдгашчы, зусім ад невядомых людзей, перадаюць яны словы ўдзячнасці за тое, што адкрыў я ім зачараваны свет прыроды, а маю кампазіцыю з карэнняў яны паставілі на самым экспанаваным месцы ў пакоі. Як жа тут не цешыцца? Калі выконваю нейкую кампазіцыю, не стараюся яе штучна ўпрыгожваць. Прыгажосць стварыла сама прырода. Трэба толькі яе адпаведна экспанаваць. Вядома, што даводзіцца часам адрэзаць некалькі галінак тут ці там, ды ніколі не хачу тварыць нажом новых формаў“.

Перад самым маім выхадам Станіслаў Банах прызнаўся мне, што марыць аб тым, каб стварыць у сябе музей лясных дзіваў. На перашкодзе стаіць толькі недахоп адпаведнага памяшкання. Думка захапляючая. І калі б прыхіліліся да яе лясныя ўлады, выйшла б гэта ўсім на карысць. А трэба сказаць, што ляснічы Банах умее цікава расказваць пра жыццё лесу. Уяўляю ўжо сабе ў думках, як водзіць ён школьнікаў і дарослых турыстаў па свеце, створаным самой прыродай, адкрывае ім яго тайны. Добра было б, каб гэтыя летуценні здзейсніліся.

**П. Байко**

Фота аўтара

# ПАСЛЯЖНІЎНЫЯ РАЗВАЖАННІ

(Працяг са стар. 1)

ўплыў пакручанае ветрам ва ўсе бакі ды месцамі прыбітае дажджом жыта. Толькі дзякуючы вялікім намаганням трактарыстаў і камбайнераў з бельскай акругі рапс быў тэрмінова скошаны. СКР апрача таго скасіў 4225 га збожжа ў 1320 сялян. Да абмалотаў бельскі СКР рыхтаваў 37 малатарняў.

Ад дырэктара: **міхалоўскага** СКР-у У. Васько мы даведаліся, што пры ўборцы сёлетняга збожжа працавала дванаццаць камбайнаў, у тым ліку шэсць „Бізонаў“ і 43 снопавязалкі. СКР скасіў у індывідуальных сялян 1110 га збожжа і ў сябе на ПФЗ-аўскіх зямельных угоддзях 800 га. Пасля ўборкі збожжа міхалоўскія трактарысты ўзяліся за рассяванне 1000 тон вапны.

У гміне Міхалова збожжа вельмі хутка спела. Не паспелі сяляне скасіць жыта, а тут авёс гатовы. Так было ў сялян з Баршчэва. А вось сяляне з Юшкавага Груда адразу пасля ўборкі жыта ўзяліся за культыватары, каб глеба не так хутка высыхала. На пясчаных глебах неабходна было затрымаць хаця крыху вільгаці. Вось хаця б пад паплёны (падсеўкі).

У раёне дзеяння СКР у **Заблудаве** (СКР абслугоўвае 52 вёскі) працавала 20 камбайнаў, у тым ліку пяць „Бізонаў“. Скасілі яны 2300 га збожжа. Са сваіх угоддзяў на ПФЗ СКР сабраў 450 гектараў збожжа. Жніўныя паслугі былі выкананы ўсім, хто іх патрабаваў. Да малацьбы СКР мае 29 абмалотачных агрэгатаў.

У гміне **Гарадок** пры жніве працавала адзінаццаць камбайнаў: сем „Вістуляў“ і чатыры „Бізоны“, а таксама дваццаць пяць снопавязалак. Была скошана амаль палавіна ўсяго збожжа ў індывідуальных гаспадароў. З ПФЗ-аўскіх угоддзяў СКР сабраў збожжа з 436 гектараў.

Жніво, жніво — і скончылася жніво. Цяпер сяляне ўзяліся хто за малацьбу, хто за падворванне і сеянне паплёнаў, а хто за вапнаванне і падсяванне мінеральных угнаенняў. Паплёны — рэч асабліва важная. Гэта дадатковая паша для хатняй жывёлы. А вядома ж, не ў кожнага гаспадара яе ўдосталь. Многія сяляне здалі ўжо сёлетняе зерне дзяржаве. З гэтым не варта адцягваць. Усе збожжавыя магазіны добра падрыхтаваны да скупкі і няма доўгіх чэргаў фурманак ля іх.

**Я. Цялушэцкі**




*У Бельску пасажырскі транспарт дасягнуў такога ўзроўню бесталкоўшчыны, што каб зрабіць з яе галіну спаборніцтваў — залаты медаль, як лялечка. Тое, што аўтобусы ды цягнікі, падружыўшы з чарапашай хуткасцю, у карусель абыякавасці папалі — справа звычайная, але што і ўладальнікі прыватных таксі там знаходзяцца, то і ў галаве не памяшчаецца. Толькі яны не пайшлі за праграмай чарапашай дзейнасці, а за лозунгам: „Абы хутчэй з рук і як найбольш у кішэнь“. Прытрымоўваюцца гэтага цвёрда і выконваюць вельмі сумленна. Стараюцца ездзіць толькі шосамі, а паваротаў убок баяцца, як нячыстая сіла свянцонай вады. Відаць, справа ў тым, каб не запэцкаць машыны. А на дарогах, вядома, то курава, то жывёліна напаскудзіць, а пасажыр жа чысціць не будзе. Самому трэба. Ну, і справа наступная — няма ніякіх чаканняў. Заўсёды ў іх замоўлены курс і трэба вяртацца на стаянку, а калі хто хоча назад, то хай звоніць у Бельск, але такім чынам кішэнь шафёра намнога пацяжэе. А каб яшчэ больш цяжкай стала, то часам патрапяць і так, што як едзеш учатырох, то ад чатырох і аплату возьмуць. Ну, але гэта ад тых, якія спрачацца не любяць і, зразумела, не ўсе. Але калі так далей будзе, то чаму і астатнія маюць не ісці за іх прыкладам?* *(мша)*

*У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ*



*Мяшкі з торфам гатовыя да адсылкі з імшараўскіх тарфянішчаў каля Міхалова.*

*Фота Я. Цялушэцкага.*

**Весткі з Супрасля**

## НОВЫ ГОК

Супрасль атрымаў новы гмінны цэнтр культуры (ГОК). Знаходзіцца ён у адрамантаваным і адпаведна прыстасаваным будынку. Ёсць там глядзельная, выставачная і клубныя залы, бібліятэка, кабінеты для працы гурткоў зацікаўленняў. Жыхары Супрасля, а таксама турысты і курортнікі, якія наведваюць гэтае прыгожае мястэчка маюць дзе культурна правесці свой свабодны час.

## ПЛЕНЕР ЖЫВАПІСЦАЎ

У пачатку жніўня ў Супраслі распачаўся пленер, у якім прыняло ўдзел 35 мастакоў-аматараў з Беластоцкага, Ломжынскага і Сувальскага ваяводстваў, а таксама з Венгрыі. Мастакі-жывапісцы вельмі ахвотна малююць пейзажы Супрасля.

15 жніўня ў Супраслі адкрыта выстаўка прац удзельнікаў гэтага пленера, якую могуць паглядзець усе ахвотныя.

(ця)




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

## АЛЬБЕРТ ПАЎЛОВІЧ — ЧАСТКА IX

**Пейзажная і патрыятычная лірыка.** У вершах Паўловіча „Родны край“ і „Родныя малюнкі“ патрыятычны матыў з'яўляецца галоўным.

Прывязанасць і любоў да Беларусі праяўляюцца ўжо ў загалоўках твораў, паглыбляюцца яны ў змесце.

Верш „Родны край“ спецыфічны па сваёй форме. Тут аўтар вядзе размову з кімсьці, да каго звяртаецца „Мой дружа“. Паэт пачынае свой верш фразай: „Ты ж не пытай мяне, мой дружа“. Далей яшчэ сем разоў паўторыць просьбу — „Пакінь пытаць!“ Паўловіч просіць не пытаць аб родным краі, аб яго кветках, аб жніве, аб маці, аб мове і г.д. Вось у гэтым прыёме і заключаецца ўся арыгінальнасць верша. Паэт просіць свайго друга не пытаць аб розных з'явах, звязаных з родным краем, але пры гэтым дэталёва апавядае аб гэтых з'явах. І якраз у гэтым апавяданні праяўляецца вялікая любоў аўтара да Беларусі. Любоў гэта датычыць прыроды роднага краю, заняткаў і працы жыхароў краіны, беларускай мовы, роднай маці. Верш канчаецца дэкларатыўнай страфой, якая як бы падсумоўвае ўсё сказанае ў творы.

*Пакінь пытаць! Не дам я веры,*
*каб Беларусь хто мог забыць:*
*Я пэўны — кожны з нас без меры*
*Любіў і будзе век любіць!!!*

Можна думаць, што верш быў напісаны Паўловічам на чужыне, а асоба друга, да якога твор адрасаваны, таксама выводзілася з Беларусі. Зрэшты, зусім магчыма, што постаць друга з'яўляецца постаццю фікцыйнай — вынікам паэтычнага прыёму.

Верш „Родныя малюнкі“ ў нейкай ступені нагадвае вядомы верш Канстанцыі Буйлы „Люблю наш край“.

Верш Паўловіча складаецца з адзінаццаці строф. Аж дзевяць пачынае аўтар словам „люблю“. У сэнсе тэматыкі верш „Родныя малюнкі“ вельмі падобны на ўжо разгледжаны твор „Родны край“. Падабенства выступае і ў тэхніцы вершаскладання.

Аднак можам гаварыць і аб розніцы. У „Родным краі“ паэт увесь час як бы скрывае сваю любоў да краіны і толькі ў заканчэнні выбухае патрыятычнай дэкларацыяй, хаця гэта дэкларацыя падрыхтавана ўсім зместам верша. У „Родных малюнках“ патрыятычная дэкларацыя гучыць на пачатку кожнай страфы. Паўторнасць слова „люблю“ не пакідае ў гэтай галіне ніякіх сумненняў. Апошняя страфа верша, наадварот, не пачынаецца ад слова „люблю“. Пачынаецца яна бытавымі дэталямі. Аднак апошні радок гэтай страфы і ўсяго верша даволі вымоўны:

*Наўкруг прыволле!.. Вольны дух!*

Значыць, што ўся атмасфера роднага краю, яго прырода і жыццё, атоесамліваецца паэтам са свабодай і вольным духам.

Уся прыродаапісальная і патрыятычная лірыка Паўловіча з'яўляецца сведчаннем таго, што паэт умеў даволі рэальна ацэньваць беларускую рэчаіснасць. Аднак у Паўловіча, як і ў большасці лірыкаў, выступае схільнасць да пэўнай ідэалізацыі прыроды, аднак схільнасць гэтая не прымае крайняй, татальнай формы. Паэт умеў убачыць у прыродзе тое, што прыгожае, і тое, што брыдкае, і ўсё ў роднай краіне любіў. Любіў так, як сын любіць сваю маці, нягледзячы на яе выгляд.



 




## Пазарасталі сцежкі — дарожкі

У гмінным пасёлку Нараўцы, як і ўсюды, красуе лета. Як усюды, цвітуць кветкі ў задбаных агародчыках, пахне маладое лісце, цвітуць ліпы, цёпла, прыемна. Ажно хочацца пахадзіць па нараўкаўскіх меланхалічных вузенькіх вулічках, параскашавацца спакоем, нацешыць вочы зялёнымі дрэвамі, рачною плыннёю, навакольнымі сенажацямі ды бяскрайнымі жытнімі нівамі. Але... заглянулі мы на мясцовы спартыўны стадыён і ажно сэрца счамілася. Дык што гэта? Сёлета тут царыць... пустазелле. Яно калышацца-пагойдваецца на ветрыку. Усялякае, але найбольш прабіваецца белы і жоўты колер. Безліч тут такіх непакошаных кветак. Яны ўсюды на абочынах, на ўсёй плошчы ды нават на бегавых дарожках. Калі мы ўжо на прагулцы, дык заглянъма, што чуваць у будынку цэнтра культуры. Хаця позняя пасляабедняя пара, дзверы ў ім закрыты. Але, але... тут быццам на стадыёне, быццам вобраз жыўцом сюды перанесены. Тут нават у браме і праз тратуарныя пліты праціснулася ўгору буйнае красачнае пустазелле. І думка нараджаецца, ці не паведаміць аб гэтым беластоцкаму „Гербаполю“, які займаецца, як усім вядома, скупкай усялякага лекавага пустазелля. А яго ж тут столькі! Вось дык можна было б парадаваць работнікаў „Гербаполю“. Ды чамусьці трошкі сумна на душы. Чаму пазарасталі не пратаптаныя сцежкі-дарожкі да культуры (да культурнага цэнтра) ў Нараўцы? Да фізкультуры таксама.

І яшчэ роздум-закід. У песні, таксама ўсім вядомай і, пэўна, усюды на Беласточчыне вельмі папулярнай сярод моладзі ёсць пра тое нейкі неўтаймаваны сум, што белым снегам запушыла ды замяло пуці і дарожкі. А вось тыя дарожкі могуць так буйна пазарастаць пустазеллем... Хто зможа, няхай загляне ў Нараўку. Праверыць і пераканаецца.

**Іван Непаседа**




У Беластоку можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Барскі Алесь,** Мой берагъ 1975, стар. 96, цана 2 зл. 80 гр.

Зборнік вершаў вядомага нашаму чытачу і папулярнага на Беласточчыне нашага земляка. У зборнік увайшлі лепшыя вершы з яго дагэтуляшняй творчасці. Зборнік выйшаў у выдавецтве „Мастацкая літаратура“ ў Мінску.

**Гурскі Ілья,** Вецер веку, 1974, тамы I і II — разам 816 стар., цана 22 зл. 10 гр.

Двухтомнік складаецца з чатырох кніг рамана пяра старэйшага беларускага пісьменніка, які нарадзіўся ў 1899 годзе і сам быў удзельнікам прадстаўленых у творы падзей. Дзве першыя кнігі „Мір хацінам“ і „Улада Саветам“ павяствуюць аб гістарычных фактах ад часоў Лютаўскай рэвалюцыі да ўтварэння БССР. Падзеі адбываюцца ў Петраградзе, на Беларусі і Заходнім фронце. Дзве наступныя кнігі — „Народжаная бурай“ і „Агнявыя гады“ — гэта вобраз Грамадзянскай вайны і барацьбы з іншаземнымі захопнікамі да канчатковага ўмацавання Савецкай улады і мірнага жыцця на Беларусі.

**Машара Міхась,** Ішоў дваццаты год, 1973, стар. 352, цана 10 зл. 20 гр.

У гэтым рамане паказаны вогненны час барацьбы Чырвонай Арміі і беларускіх партызан супраць войск Пілсудскага.

**Вітка Васіль,** Выбраныя творы ў двух тамах, 1973, разам — 818 стар., цана 26 зл. 10 гр.

У гэтае двухтамовае выданне выбраных твораў В. Віткі (сапраўднае прозвішча — Цімох Крысько) ўвайшлі лепшыя вершы, паэмы, апавяданні, п'еса пра Янку Купалу, а таксама артыкулы на актуальныя літаратурныя тэмы. Сярод іх шмат твораў для дзяцей. Зрэшты, не выпадкова — В. Вітка ўжо амаль 20 год з'яўляецца галоўным рэдактарам дзіцячага часопіса „Вясёлка“.

Запатрабаванні накіроўвайце па адрасу: „Dom Książki”, 15-089 Białystok, ul. Kilińskiego 10.

(мг)

**У Бахурах**

### ТУТ НАЙБОЛЬШ ЯГАД

Найбольш ягад у Міхалоўскай гміне скупляе на пункце скупкі ў Бахурах мясцовы зборшчык Уладзімір Буйко. Вядзе ён пункт скупкі больш чатырох гадоў. Ягады прадаюць тут жыхары з Шымкаў, Лявонавіч, Болтрыкаў, Лукі, Залешан і Цісоўкі. Бываюць такія дні, калі ягад збіраецца ад паўтары да дзвюх тон, на сорак і больш тысяч злотых. Найбольш ягад прадаюць Станіслава Петуноў і Крыстына Урван з Шымкаў, сям'я мясцовага солтыса Яўгенія Буйко, Станіслаў Казбярук з Лявонавіч. Збіраюць яны іх у лесе ля Цісоўкі, Луплянкі і Гарымова.

### 1000 КІЛАГРАМАЎ ЯЕК...

...купляе кожны месяц зборшчык з вёскі Яўген Гавенчык. Прадаць яйкі прыносяць сюды сялянкі з Лявонавіч, Бахуроў, Рудні і Шымкаў. Найбольш яек прыносіць на пункт скупкі Марыя Варона з Бахуроў. (ця)

*ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ*



*Сяброўкі.*

**Фота Р. Сянько.**

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### СЕНАКОСНАЯ

Andante

Бо — дай за-про-па-ла, бо — дай за-про-па-ла чу-жа-я сто-рон-ка.

Бодай запропала, бодай запропала
чужая сторонка,
як ныгдэ ны выйдэ, як ныгдэ ны выйдэ
діеўчына весёла.
А хоть вона выйдэ, а хоть вона выйдэ —
очы заплаканы.
Чорнюсенькім шоўком, чорнюсенькім шоўком
голоўка звязана.
Ясё коня поіў, Ясё коня поіў,
Кася воду брала —
як Ясё высвыснуў, як Ясё высвыснуў —
Кася заплакала.

Ад Марыі Семянюк, 1905 г. нараджэння, і Кацярыны Місеюк, 1899 г. нараджэння, вёска Тымянка гм. Мілейчыцы, запісаў 25 лістапада 1975 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

(Працяг са стар. 2)




ны залатымі алімпійскімі медалямі. Сярэбраную ўзнагароду атрымаў мінчанін рапірыст Аляксандр Раманькоў. А Алена Бялова і Віктар Сідзяк, апрача залатых медалёў за каманднае першынство, атрымалі бронзавыя медалі ў асабістых спаборніцтвах.

Упершыню ў фінале бегу на 400 метраў з бар'ерамі прыняў удзел савецкі легкаатлет. Гэта быў гамяльчанін Яўген Гаўрыленка. У вострай барацьбе Яўген быў на фінішы трэцім і ўзнагароджаны бронзавым медалем.

Асабліва хочацца адзначыць поспех маладога майстра спорту гродзенскага весляра Уладзіміра Раманоўскага. У байдарцы-двойцы разам з Сяргеем Нагорным ён удзельнічаў у спаборніцтвах на дзвюх дыстанцыях. У гонцы на 500 метраў савецкі экіпаж заваяваў сярэбраныя медалі. Затым весляры зноў выйшлі змагацца на кіламетровую дыстанцыю. На фінішы наш экіпаж быў першым. Так і атрымалася, што ў першы дзень гульняў беларускі веласіпедыст Уладзімір Камінскі заваяваў залаты медаль, а ў завяршаючым фінішы весляроў Уладзімір Раманоўскі таксама ўвянчаў поспех савецкіх спартсменаў залатым медалём.

Савецкія алімпійцы дабіліся трыумфальнай перамогі па ўсіх паказчыках. Маладосць нашай Радзімы ўзнагароджана 47 залатымі, 43 сярэбранымі і 35 бронзавымі медалямі. У неафіцыйным камандным заліку зборная СССР набрала найбольшую колькасць ачкоў. Немалы ўклад у агульную перамогу савецкіх спартсменаў унеслі і беларускія алімпійцы. Яны атрымалі больш за 70 заліковых ачкоў, а трынаццаць з іх узнагароджаны 17 алімпійскімі медалямі, у тым ліку 7 залатымі.

Горача спадзяёмся, што ў будучых Алімпійскіх гульнях у камандзе Савецкага Саюза зноў пасляхова выступяць беларускія спартсмены. Яны заваююць новыя медалі, стануць прызёрамі Маскоўскіх Алімпійскіх гульняў.

**Юрый Багушэвіч**
(„Літаратура і Мастацтва“)

## ЯК ЗБЕРАГЧЫ ПАСЕВЫ

Цудоўныя вечарыны ў прыпушчанскіх вёсках, асабліва калі сонца, крычучы чырваннью, тоне ў дрыгве небасхілу і, здаецца, вось-вось апусцяць яго сілы і залье гарызонт. І пушча тады, быццам бы святая служака, пачынае спраўляць памінкі па памёршым дні, кадзячы зямлю араматам смалы. Наступае час жалобы. Усё апранаецца ў чорную світку ночы і, быццам свечкі, запальваюцца ў небе зоры.

Ох, як любім мы гэта! Ды як жа ж тут і не любіць. Але не ўсім тады лёгка і радасна на душы. Вось, прыкладна, на жыхароў: Савінага Груда, Скрыплева, Ліпін, Пасталова, што ў Гайнаўскай гміне, находзіць страх. Ім бы дзень мог не канчацца ад вясны да восені. Ноч для іх — гэта вялікая страта.

Сёння мы ў Савіным Грудзе. Весела стракоча касілка, адразаючы, не вядома за якую кару, ад карэнняў доўгашыістыя каласы жыта. На полі на ланцугу сабака. Дзіўна! Каго ж ён тут пільнуе? І тут прыпомнілася пісьмо-скарга, прышоўшае да нас у рэдакцыю ад жыхароў гэтай вёскі.

— Мы, жыхары-земляробы вёскі Савіны Груд, уносім скаргу супраць звяроў, якія, не пытаючы дазволу і без ніякага пропуску, пад кіраўніцтвам барадатага генерала зубра і лычастага дзіка наведваюць нашыя пасевы і перамешваюць усё з зямлёй, — пішуць нам жыхары.

Сапраўды, дзіўная скарга. І што ж тут рабіць? Успомніўся дарожны кодэкс і яго шматлікія перасцерагальна-паведамляльныя знакі. Але, на жаль, не знайшлося ніводнага знаку, на які маглі б рэагаваць звяры. Хіба што кару налажыць. Але на каго? Іх жа цяпер нават і людзі мала прызнаюць, а што ўжо гаварыць пра чатырохногіх. А пасевы становяцца ўсё бяднейшымі ды бяднейшымі. Ноч для сялян горш, чым бяда, бо пераважна тады прыходзяць жыхары пушчы ласавацца пахучай збажынай ды маладзенькай бульбай, не гаворачы ўжо пра сакавітую траву, бо тое прынамсі хаця так не нішчаць. Пачаткова жыхары ставілі варту. Днём працуюць на полі, то звяр'ё блізка не падыходзіць, але ноччу хоць з калом ганяй. Вартавалі, вартавалі, ды ці ж увартуеш? Вазьмі ўсцеражы, калі, прыкладна, зуброў пяць на загон уваліцца. Кожнаму сваё здароўе ды жыццё дарагое. Давай потым сабак упінаць, але што ён зможа супраць такога цара пушчы! Нават голасу не падасць. Які ж тут выхад? А за знішчанае ніякай кампенсацыі няма, хіба што знішчэнне стопрацэнтнае.

— А ці прабавалі вы звяртацца да дырэкцыі надлясніцтва ў Гайнаўцы? — пытаем у Васіля Краўчынскага, аднаго з жыхароў гэтай вёскі.

— Усё адбіваецца, як гарох ад сцяны. Нічога яны з гэтых нашых скаргаў не робяць, — адказвае ён, безнадзейна махнуўшы рукою.

Так што справа невясёлая. Ніхто тут не ідзе супраць зуброў ці іншых звяроў, бо яны тут ні ў чым не вінаватыя. Кожнае жывое есці хоча. Аднак, і сялян неяк трэба забяспечыць. Што ж робіць дырэкцыя лоўчага гуртка? Бо, бадай, яна павінна апекавацца звярамі. Праца лоўчых не абмяжоўваецца ж толькі тым, каб прыехаць і спытаць, колькі зуброў прыходзіла, каб пераканацца, ці з адзін не прапаў. Так што пара задумацца над гэтым і, можа, неяк супольнымі сіламі ўзяць ды абгарадзіць палеткі. Не на тое ж людзі сеюць, каб з году ў год збіраць бесталковы ўраджай.

**М. Сакоўскі**




### Аб фальклоры

*О фальклор! Ты скарб народу.*
*Талент, мудрасць свайго роду,*
*Перла людскае натуры,*
*Крык душы, звяно культуры.*
*Барскі ж — пісьменнік народу —*
*Стварыў кніжку сяго года —*
*Аб фальклоры. Яе ў свет*
*Выдаў універсітэт.*
*Чыквін чытаў кніжку гэту,*
*Погляд свой падаў ў газету:*
*Быццам твор гэты й не твор,*
*А грубых памылак збор.*
*Я той кніжкі не чытаў —*
*Бракла часу, жыта жаў.*
*Тым ў тым дзеле дурнаваты,*
*Хто з іх праў, хто вінаваты.*
*Крытык Чыквін? Аўтар Барскі?*
*Рассудзі, змілуйся, Снарскі —*
*Й ўсе, хто высакародны,*
*Каму цэнны фальклор родны,*
*Хто ўсяму роднаму рад,*
*Спрэчку вывядзе на лад.*
*Наш фальклор датычыць нас —*
*І наш гонар...*

**Дзядзька Квас**

# ТРЫБУНА чытачоў

## Варта ўбачыць

На экраны нашых кінатэатраў увайшоў новы польскі кароткаметражны дакументальны фільм „Нататкі з Беларусі — зіма 1976“, рэалізаваны кінастудыяй дакументальных фільмаў у Варшаве.

У гэтым дзевяцімінутным, каляровым рэпартажы аб будове польскімі спецыялістамі на Беларусі 600-кіламетровага нафтавага трубаправода паказана штодзённае жыццё 1200-асабовага калектыву. Асабліва падкрэслены сардэчныя, сяброўскія адносіны будаўнікоў з мясцовым насельніцтвам. Прыводзіцца нават факт шлюбу польскага зваршчыка з беларускай у беларускім загсе.

Сцэнарый фільма напісаў яго рэалізатар Багуслаў Рыбчынскі супольна з Чэславам Сэнюхам. Здымкі выканаў Антоні Стаськевіч. Каментарый Кароля Шындзелёта. Фільм дэманструецца ў большасці мясцовасцей як дадатак да чэшскага музычнага фільма „Песня за крону“.

**П. Байко**

## Будзе новая дарога

20 год таму назад грамадскім чынам была пабудавана асфальтаваная дарога Навасады-Нараў. На гэтай дарозе быў і ёсць заўсёды вялікі рух, бо гэта ж на маршруту Беласток-Белавежа. У выніку інтэнсіўнай эксплуатацыі дарога надта была папсавалася.

Летам бягучага года Раён эксплуатацыі публічных дарог у Бельску распачаў генеральны рамонт дарогі. Частка ўжо адрамантавана. На восень дарога будзе, як новая.

**Вірскі**




### ЧАС

*Ну, і хутка ж час ляціць,*
*Калі мы з табой зышліць,*
*Вечар хутка ж уцякая,*
*бо ўжо зараз жа світая.*
*Слонка лiтасці не мая,*
*Калі ноч дзісь скарачая.*
*Найгорш тады ўсё бывая,*
*Спаць ніяк не выпадая.*
*Прышла да хаты, думала спаць,*
*А ўжо ўсе снеданне ядзяць.*
*Маці крычыць: дзе была, валацуга?*
*Я хвора была, спала так туга.*
*Маці дочку пашкадавала*
*І ў падушкі спаць паклала.*
*Спі, спі, дочка, добра спі,*
*Пакуль ты ёсць хвора.*
*Так на свеце ўсё бывая,*
*Праўды гаварыць не выпадая.*

**В. Рыбалт**

і яго таварышы напачатку былі яўна засмучаны.

— Разгромім новы гарнізон балахоўцаў у Сіняўцы, затым распусцім атрад, а самі — па хатах — не мог звыкнуцца з думкай, што трэба скласці зброю, Ігнат Швайко.

— Дарагі Ігнат Сямёнавіч, загад ёсць загад, і пра аперацыі няма чаго думаць, — сказаў камандзір свайму памочніку і сябру. — А пра хату ты рана ўспомніў. Там цябе чакаюць не толькі маці і сястра, але і паліцыя.

На нарадзе актыву атрада, дзе прысутнічаў Мікалай Урублеўскі, было вырашана: атрад распусціць у маі, пастаяннаму ядру атрада перайсці граніцу і пачаць мірнае жыццё ў Савецкай Беларусі. Байцоў жа падпольных груп, якія паліцыя ведала і шукала, перавесці на нелегальнае становішча, забяспечыць дакументамі і грашыма.

Засталіся нямногія.

Кірыла Арлоўскі, Васіль Корж, Іван Раманчук, Канстанцін Бацечка, Вікенцій Шпак, Аляксандр Даліна, Сцяпан Янушкевіч, Сцяпан Кулень — усяго каля 30 чалавек, цёплa развітаўшыся з сябрамі, пайшлі з Заходняй Беларусі.

Пройдуць гады, і камандзіра пякучым болем апаліць сумныя весткі пра гібель ад рук пілсудчыкаў яго баявых паплечнікаў Ігната Швайко, Рамана Даліны, Дзмітрыя Карпені, братоў Канстанціна і Дамініка Федаровічаў...

*(Працяг будзе)*

## Гарачы турысцкі ліпень

У Белавежы, пасля перыяду меншай колькасці наведвальнікаў, які выпаў на май і чэрвень, ізноў процьма турыстаў і экскурсантаў. У ліпені адначасна каля 24 тыс. прыезджых, з чаго каля 1,6 тыс. гэта замежныя госці. Увогуле да канца ліпеня Белавежу наведала звыш 80 тыс. чалавек, у тым ліку каля 3,1 тыс. з заграніцы (з 33 дзяржаў). Дало гэта павеліччэнне ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года на 3% — аднолькава як у выпадку краёвых наведвальнікаў, так і замежных.

З заграніцы ў далейшым найбольш ехалі з СССР (24% агульнага ліку замежных прыезджых). Затым з ГДР (16%), Францыі (14%), Чэхаславакіі (7%), ЗША (6,5%), ФРГ (5%) і Галандыі (4,5%). Пераважалі назначна групавыя прыезды (каля 55% наведвальнікаў).

Што датычыць краёвых наведвальнікаў, 16% складаюць турысты індывідуальныя, 84% — удзельнікі экскурсій. Сярод групавых прыездаў 38% выпадае на моладзь пачатковых школ, 9% — на моладзь сярэдніх школ, 2% — на студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў і 51% — на ўдзельнікаў завадскіх і іншых экскурсій.

**П. Байко**

## Кожны гектар

Начальнік горада Гайнаўкі склікаў тры камісіі для праверкі, як уласнікі зямлі апрацоўваюць сваю зямлю ў межах горада Гайнаўкі.

Камісія ў складзе: старшыня — Тапалеўская Надзея, члены — Вайсковіч Эдмунд, Дзедзюль Вінцук, Кіцель Ян, Савіцкі Сяргей, Савіцкі Валодзя. Разам з гаспадарамі ў месяцы чэрвені правяла яна агляд земель на вуліцы Ліповай. У каго поле было загаспадарана добра, атрымаў падзяку, а было некалькі палеткаў, што аж прыемна паглядзець. Гэта поле Мельцара Яна і Савіцкага Сяргея.

Камісія сцвердзіла, аднак, што некаторыя жыхары вул. Ліповай занядбалі сваю зямлю, як хаця б Каўшыла Юры, у якога звыш 2 га ляжыць ужо некалькі год адлогам.

У выніку дакладнага агляду выявілася, што 42 гектары зямлі ляжаць як няўгоддзі, 12 га заліты вадою з-за Гайнаўскага прадпрыемства драўнінай прамысловасці, 10 га — зямля гарадскога прадпрыемства камунальнай гаспадаркі і 20 га — поля ліпаўскіх гаспадароў, якое неабходна загаспадарыць.

У выніку кантролю начальнік горада пісьмова звярнуўся да ўсіх уладальнікаў, якія не апрацоўвалі зямлю, што калі зямля ў далейшым будзе ляжаць адлогам, яе возьмуць у ПФЗ. Нельга дапусціць, каб зямля ляжала незагаспадаранай.

**Вірскі**

## Мінеральныя ўгнаенні ў Нараўскай гміне

Закуп мінеральных угнаенняў у гміне Нараўка на 10 чэрвеня быў ніжэйшы плана. На план 930 тон НПК прададзена 808,2 тоны, што складае 86,9%. Замала прададзена азотных і фосфарных угнаенняў. Продаж вядзецца ў 8 пунктах. Трэба адзначыць, што ў параўнанні з папярэднім годам план быў выкананы на 8% лепш.

Ёсць вёскі, якія вядуць у гміне. Тут бачым Луку — 119%, Міхнаўку — 96,5%, Гушчавіну і Плянту — 88%, Ляшукі — 84%. Аднак адстаюць жыхары вёсак Лесна — 42% і Масева ІІ — 45%. 9 вёсак выканала план вышэй сярэдняга гміны, а 13 вёсак — ніжэй.

**Аляксандр Закройшчык**

## Ой сумна, сумна

Вось калісь, гадоў пяць-дзесяць таму назад жніво заканчвалі мы інакш. Я іншчэ помню, як у нас у хаце было. З нецярпліваcцю чакалі мы дня, калі дажнем жыта. І калі ўжо надышоў той дзень, мы стараліся ўсе ісці на поле. А ішлі мы з прыўзнятым настроем. З сабой неслі розныя кветкі і харошую істужку. І там мы рабілі з жыта кветку.

Ну, а калі ўжо вярталіся дахаты, дык стараліся нікому не казаць, што зжалі жыта. Але ўсё роўна сусед здэсь там з боку дагледзеў, і вечарам, як усе вярнуліся з поля, абліваліся вадой.

А цяпер? За дзве-тры гадзіны сажнуць жыта снопавязалкай — і кветкі не ставяць на полі, і не абліваюцца.

Ой сумна, сумна па гэтых колішніх, прыгожых звычаях!..

**Кара-Кум**

## „...І НА БЕЛАРУСКАЙ“!

У 1939 годзе, глыбокай восенню, я першы раз пайшоў вучыцца ў школу, калі мне ўжо трэба б закончыць шосты клас. Было мне трынаццаць гадоў, калі Савецкая ўлада адкрыла ў нас школу. Да вайны я толькі чуў пра школу... Калісь мачыха дала мне дзесяць грошаў на свечку і загадала пайсці са школьнікамі выспяваддаца ў царкве. Асабістая споведзь, відаць, больш каштавала... Школьнікі не плацілі, адно ставілі свечку. Дык вось, пайшоўшы са школьнікамі спавядацца, пабываў я і ў школе, пабачыў, дзе сядзяць Паўлік, Колька, Ванька і іншыя хлопцы, што хадзілі ў школу. Яшчэ ўбачыў і запамятаў на ўсё жыццё наступны вершык:

*Czyste dziecko co dzień myje —*
*Myje zęby, myje uszy.*
*Brudną ręką nic nie ruszy!*
*A kto mydła nie używa,*
*Ten brudasem się nazywa.*

У мяне была вельмі добрая памяць, і я адразу завучыў убачанае на сцяне. Я не хачу хваліцца, але чытаць папольску і па-рускі навучыўся я яшчэ перад тым, як пайшоў у школу. А некалькі песень навучыўся проста ўва сне. Чытаць па-польску навучыўся я з „элемэнтажа“, які купіў за чатыры рублі ад Антонікавага Мікалайкі, а парускі чытаць навучыўся я з евангелля, якое знайшоў у дзедавым куфэрку.

Не даваліся мне хадзіць у школу пры санацыйнай уладзе.

Увосень 1939 года аднойчы прыехаў у Грабавец афіцэр Савецкай Арміі ды склікаў сход усіх жыхароў. Гаварыў ён аб стварэнні ў вёсцы беларускай школы. Жыхары слухалі яго прамову з вялікім зацікаўленнем, а я аж дрыжэў з уцехі, што нарэшце пачну хадзіць у школу. Праўда, баяўся, што мачыха ізноў не пусціць у школу, але адганяў ад сябе гэту думку. Афіцэр гаварыў, што ўсе беларусы павінны вывучаць беларускую і рускую мовы, што гэта наш гонар і абавязак. Прыблізна так закончыў ён сваё выступленне. Потым прасіў ён, каб нехта з прысутных выказаўся на тэму сказанага ім, каб выказаў думку землякоў.

Усе маўчалі. Тады афіцэр запытаў, на якой мове людзі хацелі б мець школу, на рускай ці беларускай? Усе хорам крыкнулі, што на „рускай“, дык раптам замоўклі так, што чуваць было бзычанне камара. Пачуўся запознены дзіцячы галасок: „...і на беларускай“! Гэтым хлопцам, што так няўдала крыкнуў, быў... я. Мне стала вельмі сорамна за сваё землякоў. Усе пакасіліся на мяне. А Антонікаў Мікалай пачаў мяне шчыпаць за ногі і за жывот...

Праз некалькі дзён у Саламеінай хаце адчынілі школу, беларускую. Адзін з яе арганізатараў, Аляксей Краўчук, раздзяляў дзяцей. Калі дайшла чарга да мяне, я сказаў яму: — Дзядзька, я не толькі літары ведаю, але і добра чытаю... Але па-беларуску я, вядома, не надта ўмеў. Таму і не мог быць у старэйшым класе.

Так я пачаў вучыцца роднай мове. Адбываліся ў мяне тэта вельмі хутка. Настаўніцы Надзея Сямёнаўна і Сара Львоўна пачалі ставіць мяне ў прыклад іншым, а сябры празвалі мяне Сталіным. Разам са мною вучылася Таня Кулік, якую называлі маёй жонкаю, бо яна не ўступала мне ў навуцы.

**Васіль Петручук**

## ДЗЕ? ШТО? КАЛІ?

26.07.76 г. а 21.30 у Бельску, на вуліцы М. Бучка, Мар'ян С. з Бельска, які кіраваў матаролерам „Ява“, перакуліўся на дарозе. Параненьі Мар'ян С. апынуўся ў бальніцы.

31.07.76 г. а 0.30 у Беластоку на вуліцы Звыцienства ў самаходзе „Шкода“, якім кіраваў Здзіслаў М., абарвалася кола. Шафёр у бальніцы.

31.07.76 г. а 12.00 у Беластоку на вуліцы Варшаўскай здарыўся страшэнны выпадак. 6-гадовы Томаш Ё. выбег на дарогу і папаў пад колы аўтобуса, якім кіраваў Валодзя Т. Хлопчык загінуў на месцы.

8.08.76 г. а 22.00 на дарозе ў Сімуны, што ў Юхнавецкай гміне, Андрэй В., які кіраваў матацыклам „ВСК“, ударыў у тэлефонны слуп і перакуліўся, у выніку чаго яго пасажыр Антоні Б. з Сімунаў панёс смерць на месцы. Андрэй В. з месца нешчаслівага выпадку ўцёк.

ЧЫТАЙЦЕ і РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ „Ніву“!

## У ПГР ДЫДУЛІ

Аддзяленне ПГР у Дыдулях вядзе сельскагаспадарчую прадукцыю на 667 га ў Дыдулях, 560 га — у Парцаве і 160 га ў Вульцы Выганоўскай. Шмат лугоў і паш дазваляе ПГР-у развіваць гадоўлю і адкорм цялят. Зараз іх тут каля 500 штук. Вядзецца таксама гадоўля вепручкоў і іх адкорм. Усіх разам іх цяпер каля 900 штук. У дальнейшым напрамак гэтай прадукцыі будзе развівацца. Усіх работнікаў тут звыш 50 асоб.

## ...І Ў КЛЕЙНІКАХ

Клейнікі — гэта вялікае сяло. Многа тут жыхароў. Аднак, моладзь усё больш і больш шукае працы ў горадзе. Таму і некаторыя гаспадаркі з'яўляюцца слабымі, і іх уласнікі аддаюць іх дзяржаве. Гэтая зямля, аднак, не можа быць пад папарам.

Апрацоўкай яе заняўся ПГР. Разам на зямлі, аддадзенай жыхарамі Зубава, ПГР вядзе гаспадарку на 600 га зямельных угоддзяў. Развіваецца адкорм букатаў. Іх цяпер ужо каля 120 штук. Калькасць іх будзе павялічвацца. Аднак, асабліва важную ролю іграе сушэнне травы. З яе паслуг карыстаюцца індывідуальныя гаспадаркі, якія ўласным транспартам дawoзяць траву. Гэта вельмі важнае ў даждлівае лета.

**Мікалай Няплоха**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### ЦЯПЕР НЕ БУДЗЕ КЛОПАТАЎ

У „Ніве“ № 24 ад 13 чэрвеня гэтага года мы крытыкавалі, што пункт скупкі цялят у Бельску адкрываецца ўсяго адзін раз у месяц. Сяляне мелі клопат з продажам цялят. Атрымалі мы адказ адказных работнікаў бельскага ГС. З яго мы даведаліся, што крытыка была слушная. Цяпер скупка цялят адбываецца ў кожны панядзелак. (ця)

W związku z ukazaniem się notatki prasowej w „Niwie” nr 24 (1059) z dnia 13 VI 1976 r. pt. „Waźmi zdaj!” Gminna Spółdzielnia „Samopomoc Chłopska” w Bielsku Podlaskim wyjaśnia, że zgodnie z porozumieniem z dnia 15 I 1976 r. zawartym pomiędzy Zjednoczeniem PPGR z Okręgowym Przedsiębiorstwem Przemysłu Mięsnego i Okręgowym Przedsiębiorstwem Obrotu Zwierzętami Hodowlanymi w Białymstoku z dniem 1 II 1976 r. został wprowadzony skup cieląt na specjalnie i wyłącznie dla tego rodzaju żywca zorganizowanych spędach.

W punkcie skupu Bielsk Podlaski skup cieląt został ustalony z góry przez w/w Przedsiębiorstwa jeden raz w miesiącu tj. pierwszy poniedziałek po pierwszym bez porozumienia naszej Spółdzielni.

Jednocześnie informujemy, że OPPMS w Białymstoku Sekcja Skupu Zwierząt Rzeźnych w Bielsku Podlaskim wprowadziła z dniem 1 VII 1976 r. skup cieląt rzeźnych jeden raz w tygodniu.

W obecnej chwili skup cieląt rzeźnych w punkcie skupu Bielsk Podlaski odbywa się w każdy poniedziałek tygodnia.

**V-ce Prezes d/s Obrotu Rolnego**
**(—) A. Wakulewski**
**Kierownik Działu**
**(—) Wł. Bereściuk**

### ПРА СТАЯНКУ ТАКСІ Ў БЕЛЬСКУ

У 17 нумары тыднёвіка „Ніва“ ад 25 красавіка 1976 г. мы змясцілі карэспандэнцыю пра стаянку таксі каля чыгуначнага вакзала ў Бельску. На плошчы, на якой яна знаходзілася, многа гразі, з-за якой цяжка прайсці да аўтамашын.

На нашу крытыку мы атрымалі адказ. Стаянка таксі ўжо знаходзіцца ў іншым месцы. (ця)

Powołując się na notatkę dotyczącą postoju taxi przy dworcu PKP i PKS umieszczoną w nr 17 „Niwy” z dnia 25 kwietnia 1976 r. wyjaśniam.

Faktem było to, że po większych deszczach na postoju taxi tworzyły się kałuże wody co uniemożliwiało dojście dla osób pragnących korzystać z wspomnianego środka lokomocji. Ze względu na planowaną budowę dworca PKP i PKS w najbliższych latach uznałem za niecelowe wybetonowywanie terenu przeznaczonego pod postój. Mimo to w celu zlikwidowania takiego stanu rzeczy podjąłem decyzję przeniesienia postoju taxi w miejsce bardziej korzystne.

Pragnę więc poinformować, że postój taxi w chwili obecnej mieści się w odległości 100 m od dworca PKP na terenie byłej stacji CPN. Teren ten jest utwardzony i choć jest to lokalizacja czasowa odpowiada podstawowym warunkom postoju.

**Z-ca Naczelnika Miasta**
**(—) Leoncjusz Parafiniuk**

„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

# Добрае слова

Не ведаю, як вам, а мне не вельмі часта перападае ад жонкі добрых слоў. Усё нешта не так раблю, усё не па ёй: то я доўга затрымліваюся на працы, то, наадварот, мазолю ёй вочы... Прычэпіцца за нішто, справацыруе сварку, а потым, задаволеная, бегае па хаце, радуецца — насаліла мужу! Вось які брыдкі характар. Дзе ўжо тут пра ласкавае слова марыць... Але сёння я пераступіў парог уласнай кватэры і не паверыў сваім вушам: жонка нахвальвала мяне суседцы:

— Не-не, я пра свайго кепскага нічога не скажу... Мне, суседачка, не тое, што іншым — пашанцавала ў жыцці. Мой і рахманы, і разумны, і гаспадарлівы, і да гарэлкі не дужа ахвочы. Так, на свята ці пасля лазні мо і возьме колькі, а каб нажлукціцца — аніколі!

Ушчыкнуў сябе за вуха: можа, я не ў сваю кватэру трапіў? Не, здаецца, у сваю. У калідоры цёмна, хоць вока выкалі, яшчэ з зімы збіраюся святло наладзіць ды ўсё не збяруся. І шафа, за якой схаваўся, таксама мая — даўно жонка просіць перасунуць ад дзвярэй, перашкаджае. Ды і галасок сваёй вісклі ніколі не пераблытаю, толькі мая артыстка можа так шчыра вохкаць і сакатаць, смяяцца і абуракца.

— Пражылі дваццаць гадочкаў з ім душа ў душу... Каб ён на мяне калі голас павысіў — аніколі! Адно паміж намі — згода і ласка. Мо калі і пабурчым, дык і то потым мілуемся, як пасля вянца. Золата, а не чалавек! Ты прабач ужо, суседачка, зараз ён вернецца з працы, трэба ж свайму роднемькаму на стол накрыць.

Калі суседка, зайздросна ўздыхнуўшы, знікла за дзвярамі, я, усхваляваны, расчулены, выйшаў са сваёй схованкі і кінуўся з абдымкамі да жонкі:

— Любая!

— Ты... што, ты што?! Адстань, адстань з пацалункамі свaімі, смала... Так і думала: зноў набраўся! Фу, нясе...

— Гэта ж чэшскае... Піва...

— Чэшскае? Ды не дуры ты мне галавы! Ведаю, якое чэшскае... Ну, пачакай, лопне маё цярпенне, выберуся я да твайго начальства і ўсё, усё чысценька раскажу пра тваe выбрыкі. Будзе табе і чэшскае, і нямецкае, і французскае! Усё разам! Бач ты, ніяк не можа спыніцца, скура на ім гарыць... Во пакараў мяне лёс дык пакараў, звязала жыццё з п'яніцай!

— Навошта лаешся? Ты ж толечкі так хораша пра мяне суседцы казала...

— А божа мой! Ха-ха... Развесіў вушы, ёлупень стары... Гэта ж я спецыяльна казала, каб нос суседка не дужа задзірала, каб зайздросціла!

...Цяжка зразумець жанчыну.

**Я. Іваноў**



*У нагу з векам.*



...Ён ніколі не пераскочыў самога сябе, але не даваў рабіць гэтага і іншым.

# НІЎКА



*— Надта ўжо ўсіх хваліць, трэба праверыць, як ён працуе...*



*— А мне лекар забараніў купацца адразу пасля яды.*

### ГАСПАДАР НАСТРОЮ

— Ну, а ты чаго глядзіш ды не закурваеш?

— Тры месяцы і пяць дзён не займаюся гэтым.

— І як адчуваеш? Нудоту асіліў?

— Адчуваю сябе цудоўна. Апетыт воўчы, сплю волатам, сэрца, як малаток, стукае...

— Пачакай! Гэта я ведаю. Чуў і чытаў... А вось як ты ў выключных выпадках... Калі, скажам, з жонкай пасварышся?

— Я, дружа, гэтак справу паставіў, што пасля сваркі жонка за папяросу хапаецца, а я толькі прыкурваць ёй даю.

**А. Салаўянчык**

### ЗДАГАДЛІВЫ

— Я нават і не ведаю, што мы з бацькам рабілі б, каб ты заблудзіўся ў лесе, — папракае маці Міколку.

— А я ведаю: шукалі б!

### ПРАЧЫТАЙ!

Убачыўшы, што жонка чытае журнал „Чалавек і закон", Кастусь сказаў:

— Што там цікавага? Дай пачытаю.

— На, можа, і табе нейкі артыкул падыдзе.

### ШЧАСЦЕ

Муж вярнуўся дамоў з чырвонай палоскай на лобе.

— Губная памада?! — задыхнулася ад гневу жонка.

— Ды не, кроў. Па дарозе дамоў здарылася аварыя, і я разбіў галаву аб руль аўтамашыны.

— Ну, тваё шчасце, калі так!

### ПАЦЕШЫЎ

— Калі ты перастанеш піць, я цябе назначу начальнікам аддзела.

— Не турбуйся. Калі я вып'ю, я ўяўляю сябе самім генеральным дырэктарам.





### АДВАЖНЫ

Грызліся ноччу сабакі на двары, а задрыпанец ляжыць у хаце ў ложку ды й кажа: „Гуджа, гуджа!"

— Ой, — кажа жонка, — які ты адважны!

— І-і-і, — кажа муж, — я б яшчэ і да акна пайшоў!

### ЧЭСНЫ ВЯРБЛЮД

*Далёка недзе, пасярод пустыні*
*Быў магазін. А ў гэтым магазіне*
*Вярблюд вадой і сенам гандляваў.*
*Ён чэсны быў. І кожны дзень нязменна*
*Сам у сябе купляў ваду*
*І нават сена.*
*Пра што напісана ў вершы гэтым,*
*Я прачытаў загадчыку буфета.*
*А ён сказаў: — Я ганіць верш не буду,*
*Але чытай ты лепш яго вярблюду.*

**Паўло Глазавы**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Галоўны лекар бальніцы кліча маладога хірурга ў свой кабінет і гаворыць яму:

— Вы павінны нейк стрымаць свой запал... З-за вас даводзіцца спісваць ужо трэці аперацыйны стол. Вялікая просьба — не нацiскайце так на скальпель!

*

Містэр Сміт, пражываючы ў Н'ю-Йорку на фешэнебельнай Пятай авеню, атрымаў ліст, адрасаваны яго аднафамільцу — містэру Сміту, пражываючаму на Шостай авеню. „Сэр, — гаварылася ў лісце, — калі вы не пашлеце ў найбліжэйшыя тры дні дзесяць тысяч долараў па ўказанаму ніжэй адрасу, мы ўкрадзем вашу жонку і заб'ем яе".

Адказ містэра Сміта гучаў: „Сэр, я не той Сміт, які жыве на Шостай авеню, аднак спяшаю паведаміць, што ваша прапанова мяне зацікавіла".

*

Стары лорд вяртаецца ў часе паляванння дамоў.

— Вы прыйшлі за новымі патронамі, сэр? — пытае яго слуга.

— Не, за новымі сабакамі.

*— Мой муж любіць зімою кінуць сабе ў кілішак вішанку.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Крыстыны Сакалоўскай з Піражкоў, Ірэны Несцярук з Дубіч Царкоўных і „Галіны" змяшчаем песню*

## DZIEŃ BEZ HAPPY ENDU

**słowa: Janusz Kondratowicz**
**muzyka: Jarosław Kukulski**
**śpiewa Anna Jantar**

Przeminęło z wiatrem
gdzieś przepadło nagle
no i co
jesteś czy cię nie ma
błękit spada z nieba
śpiewa dzwon

Słońce na ulicy
dziury w płotach liczy
wzbija kurz
nic się nie zmieniło
wszystko jest jak było
spójrz

Przeminęło z wiatrem
uleciało z żartem
no i co
śmieję się jak śmiałam
płaczę jak płakałam
razy sto

Światło w moim oknie
czyjś rysuje portret
już nie twój
inny ma nadzieję
że z nim świat podzielę
swój

Dzień bez happy endu
tobie się zdarzył i mnie
lecz dzień bez happy endu
nie musi kończyć się źle

Przeminęło z wiatrem
zgasło już naprawdę
no i co
jestem wciąż bogata
złotem tego lata
tym co w krąg

Nie żal mi niczego
złego i dobrego
tam czy tu
bez niczyjej rady
żyję do utraty
tchu

Dzień bez happy endu
itd.

Przeminęło z wiatrem
gdzieś przepadło nagle
no i co
jesteś czy cię nie ma
błękit spada z nieba
śpiewa dzwon

Słońce na ulicy
dziury w płotach liczy
wzbija kurz
nic się nie zmieniło
wszystko jest jak było
spójrz

Nic się nie zmieniło
wszystko jest jak było
spójrz





### ТУРБОТЫ АД СЛАВЫ

Да заходнегерманскай горналыжніцы Розі Мітэрмайер прыйшла спартыўная слава: на Алімпійскіх гульнях яна заваявала дзве залатыя і адну сярэбраную ўзнагароды. У выніку аказалася, што Розі было лягчэй заваяваць узнагароды, чым пазбавіцца ад дзялкоў, якія імкнуцца пагрэць рукі на славутым імені чэмпіёнкі. Гэтыя дзялкі без ведама і згоды Розі Мітэрмайер размножылі фатаграфіі і адкрыткі з аўтографам чэмпіёнкі і ў велізарнай колькасці пусцілі ў продаж. У выніку пад пагрозай аказаўся статут Мітэрмайер як спартсменкі-аматаркі.

### МАХІНАТАР — НА ПАЧЭСНАЙ ПЕНСІ

Амерыканскія бізнесмены не грэбуюць ніякімі сродкамі, каб толькі дабыць лішні долар. Вось і ў гэтым выпадку. Кіраўніцтва нафтавай кампаніі „Галф ойл" было абвінавачана ў подкупах і іншых махінацыях. Старшыні праўлення гэтай кампаніі Бобу Дорсі прыйшлося крута. І тут яму на дапамогу паспяшаліся такія ж махінатары, як і ён сам. Боба паспешліва адправілі на... пенсію. Яго заслугі перад кампаніяй былі высока ацэнены. Адначасовая, „выхадная" дапамога экс-старшыні склала 1,6 мільёна долараў. Штогадовая пенсія будзе выплачвацца ў памеры 48.158 долараў. Акрамя гэтага яму прадстаўлена права набыць 200 тысяч акцый кампаніі за адну пятую іх кошту. І напаследак: 54 тысячы долараў „адпускных".

Няма чаго сказаць: рука руку мые, хоць абедзве рукі брудныя.





**Падчас і таму, хто купаецца ў праменнях славы, патрэбна выратавальнае кола.**